

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№13 (1030) 19 студзеня 1995 г. Чацвер. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 541972 экз. Кошт у розніцу — 150 руб.





*ФАКТЫ*АРГУМЕНТЫ*КОММЕНТАРИИ*СОБЫТИЯ*

## Вкратце

***Вчера с утра "незаконные вооруженные формирования" предприняли в Грозном несколько попыток контратаковать позиции федеральных войск.***

Высокопоставленный представитель Минобороны России в Моздоке объяснил это "стремлением боевиков вырваться из центра города", фактически блокированного российскими войсками.

❑

***В Грозном идут позиционные бои. Центр города обстреливается из пушек, минометов, систем залпового огня.***

Российская авиация продолжала в среду "поддерживать действия сухопутных войск" в различных районах Чечни. Ударам с воздуха подвергались опорные пункты и военные объекты боевиков за пределами Грозного.

❑

***Число жертв сильнейшего за 50 лет землетрясения, обрушившегося на японские префектуры Хиого и Осака, выросло до 1805 человек.***

6367 человек получили ранения различной степени тяжести. Без вести пропавшими числятся 1036 местных жителей.

❑

***Курс российского рубля по отношению к доллару США на ежедневных торгах Московской межбанковской валютной биржи 18 января упал на 22 пункта и составил 3883 рубля.***

## Белорусская пресса — самая затурканная в Европе?

***Черным пятном выглядит Беларусь на карте Европы, составленной по оценкам экспертов международной организации "Freedom House" и иллюстрирующей степень свободы печати в странах континента.***

Вся Западная Европа, большинство бывших государств "соцлагеря" и страны Балтии помечены на этой карте белым цветом — там "четвертая власть" не ведает притеснений. Россия, Украина, Молдова, Словакия, Турция и еще несколько стран удостоились серого цвета — в них, по мнению экспертов, свобода прессы ограниченна. И, наконец, три зловещих черных пятна — Сербия, Босния, Беларусь. Тут, как считают в "Freedom House", по отношению к средствам массовой информации царит полный "беспредел"...

**Кастусь АЛЕКСАНДРОВИЧ.**

## Инженер — значит безработный?

***На одно рабочее место, которое сегодня может предоставить своим безработным Ивановская служба занятости, претендуют сразу 94 человека.***

Самыми бесперспективными директор службы Тамара Савицкая назвала профессии инженера, воспитателя, экономиста, техника, водителя автомобиля, повара... В еще худшем положении выпускники школ и учебных заведений.

**Анатолий КРЕЙДИЧ.**




Рисунок Олега ПОПОВА.

## Газеты — за решетку!

***Сущая "эпидемия" ограблений торговых точек "Союзпечати" разразилась в Витебске.***

За месяц взломано не менее десяти киосков, в которых, как известно, кроме газет, журналов и книг, продаются еще кое-какие мелочи: жвачка, шоколадки, мыло... Во всяком случае, большой наживы это ворам не сулит, а посему легко предположить, что орудуют по ночам подростки, вышедшие из-под контроля родителей. Милиция принимает срочные меры по наблюдению за "криминогенными" объектами, а местное агентство "Союзпечать" вынуждено потратиться на металлические решетки для защиты своих товаров от грабителей.

**Владимир ЖИГУЛОВ.**

## На воре и шапка... не держится

***Зимой, как известно, наиболее популярны среди уличных любителей легкой наживы меховые головные уборы.***

Необычный случай из этой "серии" произошел недавно в Гомеле. На полпути от остановки до дома молодая женщина с тревогой заметила, что следом за ней идет незнакомый мужчина. Через пару секунд он одним прыжком очутился рядом с ней и сорвал с головы шапку. Женщина оказалась не из робкого десятка и, вцепившись обеими руками в горло грабителю, повалила его на землю. Неизвестно, чем бы закончился поединок, если бы в этот момент из подъезда ближайшего дома не вышла шумная компания. Она-то и спугнула грабителя, да так, что тот забыл прихватить с места происшествия свою собственную бобровую шапку.

**Ирина МАКОВЕЦКАЯ.**

## А любовь тут ни при чем

***Более шестисот случаев заболеваний сифилисом зарегистрировали медики Брестского областного кожно-венерологического диспансера в прошлом году — вдвое больше, чем в 1993-м!***

А начало нового года подтвердило наихудшие прогнозы: количество обратившихся за помощью больных продолжает увеличиваться, соответствующее отделение стационара диспансера переполнено. Все чаще регистрируются случаи и других заболеваний, передающихся половым путем, диагностика которых стала возможна благодаря новым методам медицинских исследований.

Особую озабоченность врачей вызывает то обстоятельство, что среди больных большое количество несовершеннолетних.

**Валентина КОЗЛОВИЧ.**

## Профсоюзы теряют терпение

***Учитывая предложения отраслевых и региональных профсоюзов, а также требования многочисленных рабочих коллективов, президиум совета Федерации профсоюзов Беларуси постановил провести 26 января текущего года общереспубликанскую акцию протеста против нарушения трудовых и социально-экономических прав граждан страны.***

Массовые выступления трудящихся пройдут в Минске, областных центрах и на крупных промышленных предприятиях республики в форме митингов, собраний, пикетирований. В целях организованной подготовки и проведения акции создан республиканский координационный комитет. Советам объединений профсоюзов областей также рекомендовано создать такие штабы действий. О своей готовности выступить 26 января с акцией протеста ФПБ информировала международные профцентры.

## Требуется директор совхоза

***Те, кто желает попробовать себя в сельском хозяйстве, могут обратиться в Калинковичский райисполком, который решил не продолжать контракты с руководителями предприятий, допустившими значительный обвал производства.***

Пока объявлен конкурс на замещение должностей директоров в совхозе "Галявичи" и межхозяйственном предприятии по выращиванию свинины "Домановичи". Надо отметить, что претендентов стать директорами уже немало.

## Бычка съела инфляция

***В Кормянский народный суд подано большое число исков граждан к колхозам и совхозам. Все тяжбы касаются одного — возвращения денег за сданный скот.***

В свое время крестьяне поддержали хозяйства, продав им выращенных животных. В результате госплан по сдаче мяса был выполнен, а со сдатчиками так никто и не рассчитался. Пока удалось выиграть лишь один из исков.

**Олег СМОЛЯКОВ.**

## В Рогачеве женщинам не доверяют

***В городских магазинах Рогачева появились объявления, в которых покупательницам предлагают раскрывать перед кассиром не только хозяйственные сумки и авоськи, но и дамские сумочки.***

Основанием для такого шага явились неоднократные случаи воровства товара, который представительницы прекрасной половины пробуют незаметно вынести из торговой точки во все тех же дамских сумочках.

**Олег СМОЛЯКОВ.**

## Блеснул "Праменьчык"

**На "коне" вернулись из Москвы юные танцоры брестского ансамбля "Праменьчык".**

С фестиваля стран СНГ "Рождественские каникулы" с участием шестидесяти детских коллективов они привезли лауреатское звание и диплом первой степени.

**Виктор ВАСИЛЕВИЧ.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН, РИД.**

# Праз горы, праз адлегласці

### праходзіць у гэтыя дні афіцыйны візіт у КНР Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі

Не па-зімоваму цёплым і сонечным выдаўся гэты дзень у Пекіне. 17 студзеня ў сталіцу КНР прыбылі афіцыйная дэлегацыя на чале з Аляксандрам Лукашэнкам і суправаджаючыя яго асобы.

Дзяржаўнымі флагамі ўпрыгожана цэнтральная плошча Цяньаньмэнь. Грымяць урачыстыя залпы з гармат. Высокага госця ў доме народных сходаў сустракае Старшыня Кітайскай Народнай Рэспублікі Цзян Цзэмінь. Гучаць гімны дзвюх дзяржаў, іх кіраўнікі абыходзяць строй ганаровай варты.

Пасля афіцыйнай цырымоніі сустрэчы адбыліся перагаворы Аляксандра Лукашэнкі і Цзянь Цзэміня ў вузкім коле, потым — дэлегацый у пашыраным складзе. Іх вынікам стала падпісанне сумеснай дэкларацыі аб далейшым развіцці і паглыбленні супрацоўніцтва паміж Рэспублікай Беларусь і Кітайскай Народнай Рэспублікай. У ёй, у прыватнасці, бакі заявілі аб тым, што будуць развіваць адносіны ў адпаведнасці са статутам ААН, на аснове прынцыпаў узаемнай павагі суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці. Вырашана ствараць спрыяльныя ўмовы для ўзаемных гандлёвых сувязей, садзейнічаць супрацоўніцтву дзвюх краін у стварэнні сумесных прадпрыемстваў, а таксама ажыццяўленню ўзаемавыгадных інвестыцый.

Ужо цяперашні візіт сведчыць аб сур'ёзнасці такіх намераў. У складзе беларускай дэлегацыі — міністры, кіраўнікі прамысловых прадпрыемстваў, якія вядуць інтэнсіўныя дзелавыя перагаворы са сваімі кітайскімі калегамі. У час візіту падпісаны пагадненні аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання і аб паветраных зносінах.

— Мы прыляцелі ў Кітай не на экскурсію, — заявіў Аляксандр Рыгоравіч, — а для сур'ёзнай работы, уваходжання ў ваш рынак.

Насычанасць, выніковасць дзелавых сустрэч пацвярджаюць гэта.

Адбыліся сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі са Старшынёй пастаяннага камітэта Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў Цяо Шы, прэм'ерам Дзяржаўнага савета КНР Лі Пэнам.

Гэтыя радкі перадаюцца з Шанхая, куды прыбыла ўчора беларуская дэлегацыя. Горад таксама ўпрыгожаны дзяржаўнымі флагамі Рэспублікі Беларусь і Кітайскай Народнай Рэспублікі. 19 студзеня намечана, што высокія госці наведаюць тут валютна-біржавы цэнтр, раён апрацоўкі экспартных тавараў Пудунскай зоны, адбудуцца новыя гутаркі з кіраўнікамі кітайскіх прадпрыемстваў. Запланавана сустрэча з мэрам Шанхая Хуанам Цзю.

**Іван ЗНАТКЕВІЧ.**

Пра што гаварылася на прэс-канферэнцыі?

# Дэбет з крэдытам звялі і рукамі развялі...

На працягу двух месяцаў у Вярхоўным Савеце ішла работа над праектам бюджэту на гэты год, прапанаваным Кабінетам Міністраў рэспублікі. 17 студзеня законапраект стаў законам. Але пытанні, звязаныя з ім, засталіся. На спецыяльна арганізаванай прэс-канферэнцыі адказы на іх паспрабаваў даць старшыня Планавай і бюджэтна-фінансавай Камісіі парламента Сцяпан Пісарэвіч. І трэба сказаць, што, адказваючы на пытанні журналістаў, Сцяпан Канстанцінавіч вымушаны быў прызнаць: бюджэт на гэты год мала чым адрозніваецца ад папярэдніх сабратаў. Зноў не вызначаны эканамічныя прыярытэты, зноў не выдзелены рычагі дзяржаўнай падтрымкі галін, якія дапамаглі б эканоміцы стаць на ногі, значная частка асігнаванняў, як і раней, пойдзе на вырашэнне [illegible] авых праблем.

Калі ж гаварыць аб бюджэце ў цэлым, то 24 працэнты ўсіх сродкаў пойдуць на фінансаванне народнай гаспадаркі, 38 працэнтаў — на сацыяльную сферу, амаль 10 працэнтаў — на ліквідацыю вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, столькі ж — на ўтрыманне сілавых структур і толькі каля 2 працэнтаў —на навуку. Прычым сфарміраваны бюджэт такім чынам, што ад насельніцтва ў яго паступіць толькі 6,6 працэнта ўсіх сродкаў, а ад юрыдычных асоб — уся астатняя сума. Сцяпан Пісарэвіч вымушаны быў прызнаць, што практычна ўжо не засталося запасу для новых паступленняў у бюджэт за кошт павелічэння падаткаў. У сувязі з гэтым, на думку старшыні камісіі, ужо ў будучым годзе ўзнікне неабходнасць пошуку новых крыніц паступленняў.

За рамкамі закона ў гэтым годзе, на жаль, засталася і яшчэ адна важная праблема. У бюджэце на сёлетні год зноў не знойдзена магчымасці выдзялення сродкаў на выплату даўгоў па крэдытах. А вось 60 мільёнаў долараў у якасці працэнтаў па крэдытах мы ўсё ж будзем вымушаны выплаціць. Ну, а статыстыка ў гэтай галіне на сённяшні дзень такая: доўг складае 1,3 мільярда долараў, і сёлета ён можа быць павялічаны яшчэ на 700 мільёнаў. Праўда, будзе даволі праблематычна знайсці такую суму крэдытаў. Напрыклад, у мінулым годзе ў выглядзе крэдытаў у рэспубліку паступіла толькі 300 мільёнаў долараў.

І ўсё ж праблема выплаты даўгоў па крэдытах ужо сёння стаіць дастаткова востра. Але, на жаль, пакуль што галоўнай крыніцай іх пакрыцця з'яўляецца прыцягненне... новых крэдытаў, гэта значыць — новыя даўгі.

**Святлана КАЛІНКІНА, Белінфарм.**

Учора ў Маскве...

## Рэха вайны дакацілася да кашалькоў пенсіянераў

***Расійскі ўрад, здаецца, зрабіў спробу заткнуць свае бюджэтныя прарэхі, звязаныя з вялікімі матэрыяльнымі стратамі ў вайне з Чэчэнскай рэспублікай, за кошт пенсіянераў і нізкааплачваемых катэгорый работнікаў бюджэтнай сферы.***

Учора на пасяджэнні Дзяржаўнай думы, калі дэпутаты распачалі абмеркаванне ў другім чытанні праекта закона аб мінімальнай заработнай плаце ў памеры 54100 рублёў, прадстаўнік урада ўнёс альтэрнатыўны варыянт закона, паводле якога памер зарплаты па мінімуму не перавышае 34400 рублёў. Для сацыяльнай абароны бядотных слаёў насельніцтва патрабуецца ўсяго каля двух трыльёнаў рублёў, якія ў лічаныя дні праглынула армейская групоўка ў Чэчні. Сваім праектам В.Чарнамырдзін штурхае больш як палову расіян на грань крайняй галечы ў сувязі з высокай інфляцыяй.

Аднак Дзярждума прыняла свой варыянт закона. Парламентарыі запатрабавалі ад урада поўнай расшыфроўкі ўтойваемых ад народа асігнаванняў на вядзенне ваенных дзеянняў, дапамогу пацярпеўшым і аднаўленне разбуранай гаспадаркі рэспублікі. У адваротным выпадку парламентарыі прыгразілі зноў адхіліць праект закона аб бюджэце на 1995 год, што пагражае непрыемнасцямі аж да адстаўкі кабінета.

**Леанід ФАДЗЕЕЎ, уласны карэспандэнт "Народнай газеты" ў Маскве.**

ПАСТАНОВЫ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб прадастаўленні падатковых ільгот па тавараабменных (бартэрных) аперацыях

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Вызваліць вытворчае аб'яднанне "Гомсельмаш" ад выплаты падатку па тавараабменных (бартэрных) аперацыях на пастаўку прывадных і транспартных пасаў фірмаў Германіі "Апцібелт" і "Артэміс" для камплектацыі новых машын, а таксама кормаўборачных камбайнаў "Палессе-250" у адпаведнасці з кантрактам ад 6 мая 1994 года N 112(0576644311)40005, заключаным з польскай фірмай "Тер-Тeg".

2. Вызваліць Мінскі аўтамабільны завод ад выплаты падатку па тавараабменных (бартэрных) аперацыях на пастаўку аўтаматызаванага складу аўтамабільных рухавікоў і буйнагабарытных вузлоў і дэталей у адпаведнасці з кантрактам ад 23 сакавіка 1993 года N 1530(23-100-3218), заключаным з балгарскай фірмай "Інтрансмаш".

3. Вызваліць Магілёўскае вытворчае аб'яднанне "Хімвалакно" ад выплаты падатку па тавараабменных (бартэрных) аперацыях на пастаўку абсталявання для вырабу плёнак на аснове прапілену для ўпакоўкі харчовых і медыцынскіх прэпаратаў у адпаведнасці з кантрактам ад 26 кастрычніка 1992 года N 1538/2-2114-280, заключаным з нямецкай фірмай "Брукнер".

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.ГРЫБ.**

9 студзеня 1995 г. г.Мінск. N 3511-XII

## Аб парадку фарміравання валютных фондаў у 1995 годзе

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Прадоўжыць да 1 студзеня 1996 года тэрмін дзеяння пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 22 снежня 1993 года "Аб парадку фарміравання валютных фондаў у 1994 годзе" (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1994 г., N 3, арт. 27, N 32, арт. 542), дапоўніўшы пункт 6 гэтай пастановы абзацам наступнага зместу:

"Пры гэтым па тавараабменных (бартэрных) аперацыях з сустрэчнай пастаўкай у Рэспубліку Беларусь у поўным аб'ёме сацыяльна значных тавараў па пераліку, які зацвярджаецца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь, а таксама сыравіны, абсталявання, запасных частак і камплектуючых (для ўласных патрэб суб'ектаў гаспадарання) падатак у памеры 10 працэнтаў не бярэцца. Пры вывазе за межы мытнай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь сацыяльна значных тавараў, сыравіны, абсталявання, запасных частак і камплектуючых, пры ўвозе якіх прадастаўлялася названая льгота ў адпаведнасці з гэтай пастановай, суб'екты гаспадарання ўносяць у бюджэт суму прадастаўленых ільгот у парадку, які вызначаецца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь".

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.ГРЫБ.**

9 студзеня 1995 г., г.Мінск. N 3512-XII

Взгляд из Минска

# Анатомия одной авантюры, или Эхо чеченской войны

**Анатолий МАЙСЕНЯ, политолог**

(Окончание. Начало в N 12.)

Пламя чеченской войны, на мой взгляд, раздули бездарные российские генералы во главе с предводителем славного воинства Павлом Грачевым и вице-премьером Николаем Егоровым. Это не просто трагическая цепь военных просчетов, это чванливая тупость отдельных московских держиморд, увлекших за собой президента прожектами победоносной кампании. Бреши в собственных головах они попробовали заткнуть "пушечным мясом" из тысяч российских солдат и офицеров. Поход на Чечню им представлялся увеселительной предрождественской прогулкой. Своим великодержавным пренебрежением к обычаям и традициям края, своими шапкозакидательскими настроениями они пробудили к себе в свободолюбивом и гордом чеченском народе ненависть. Чем не преминули умело воспользоваться люди Дудаева. Пропагандистская машина официального Грозного, смазанная нефтедолларами, была запущена на полные обороты. Информационная битва была проиграна Россией по всем статьям. Чечня, еще недавно расколотая в своей поддержке и противостоянии режиму генерала Дудаева, забыла на время о прошлых обидах и междоусобицах и дружно, кто проклятием, кто свинцом, встретила тех, кого дудаевская пропаганда назвала "чужеземными захватчиками".

**Почему поход против режима Дудаева был предпринят именно в это время — в начале декабря 1994 года? В спешном порядке, без должной штабной проработки и подготовки сил и резервов?** Десятки тысяч людей по обе стороны фронта в Чечне стали разменными фигурами в политических гамбитах в первопрестольной. Тайная борьба за власть в кремлевских коридорах, которая с осени прошлого года вошла в фазу обострения, невидимой рукой раскрутила пружины авантюры в Чечне. В этот период в правительстве и в президентском окружении резко усилила свои позиции и влияние на Бориса Ельцина группа людей, наиболее тесно связанных с силовыми структурами, — начальник личной президентской охраны Коржаков, комендант Кремля Барсуков, первый помощник президента Ильюшин, секретарь Совета безопасности Лобов, вице-премьер Егоров и, наконец, первый вице-премьер Сосковец. У всех этих государственных деятелей, хотя и в разной степени, наблюдались особая слабость к командно-административным методам правления и преклонение перед грубой военной силой, что, как известно, плохо стыкуется с демократическими представлениями о власти. "Блицкриг" в Чечне давал им уникальную возможность воплотить их политическую философию в жизнь. Октябрь 93-го выставлял ориентиры. Они спешили, и, если сообщения последнего времени о том, что Борис Ельцин постепенно утрачивал контроль над ситуацией в государстве, имели под собой реальную почву, причину их спешки можно понять. Выход Бориса Ельцина из политической игры был бы равносилен их краху.

Победоносная кампания против Грозного одним махом могла бы решить сразу несколько проблем:

**первая и самая главная** — создать на волне милитаризма ту систему власти, которую бы не смог поколебать уход Бориса Ельцина. Для этого на место премьера выдвигался Олег Сосковец. К Виктору Черномырдину, который известен своей основательностью хозяйственника и откровенными антипатиями к политиканству, в этих кругах особого доверия не было. При этом Совет безопасности в условиях чрезвычайных военных действий в Чечне концентрировал в своих руках всю реальную власть в России, становясь своего рода Политбюро. Это, по крайней мере, избавляло от необходимости прислушиваться к острому на язычок Федеральному Собранию, которое у этих людей ничего, кроме раздражения, не вызывало. Делить власть они не привыкли. Нельзя исключить, что "партия войны" была готова по опыту октября 93-го пойти еще дальше — распустить депутатов по домам и навесить на дверь Госдумы амбарный замок. Косвенным подтверждением того, что этот сценарий был запущен в дело, можно считать неожиданный уход в команду президента вице-спикера Госдумы Ковалева. Осенью 93-го Борис Ельцин точно в такой же манере переманивал из Верховного Совета заместителей Хасбулатова;

**во-вторых**, политическая атмосфера "чрезвычайщины" позволила бы особо не церемониться со средствами массовой информации, которые, как никакой другой демократический институт в России, стояли поперек дороги авторитарному режиму. И то, что атака на Грозный совпала по времени с фронтальным наступлением властей на прессу и телевидение, нельзя считать случайностью;

**в-третьих,** громкая виктория помогла бы Павлу Грачеву угомонить всех своих оппонентов и отвести внимание от скандалов в связи с разоблачениями коррупции в армии и, следовательно, спасти себя от позора. Отступать министру было некуда — или грудь в крестах, или голова в кустах.

Для этих людей, томимых жаждою власти, поход на Грозный обернулся ужасным конфузом. И слава Богу: в случае успеха чеченской авантюры Россия могла бы надолго зайтись в тяжелых конвульсиях авторитаризма. Реальный, а не придуманный, антидемократический путч в России вошел бы в историю.

Ни у кого, даже самых фанатичных сторонников Дудаева, пожалуй, уже не осталось иллюзий, что Грозный падет перед атакующей мощью федеральных войск. Уже сегодня, хотя в центре Грозного все еще рвутся снаряды и стонет, но не сдается наполовину разрушенный оплот дудаевского режима — президентский дворец, и самое время выставить по всем правилам гамбургский счет организаторам и вдохновителям позорной акции. Последствия их деяний для России ужасны.

**Первое**. Тысячи матерей по всей России никогда не дождутся своих сыновей домой. И тем больнее, что мало кто из них, полегших в сражении, знал, за что и во имя чего он отдает свою жизнь.

**Второе**. Взятие Грозного не остановит кровопролитной войны в Чечне. России потребуется отдать еще немало времени, средств и солдатских жизней для того, чтобы подавить очаги сопротивления. Партизанская война в южных районах Чечни неизбежна.

**Третье**. Военная авантюра в Чечне расколола российское общество и вызвала сильное брожение в армии. В российском государстве резко обозначились центробежные тенденции, небывалую популярность приобрели конфедералистские настроения. Главы ряда регионов в самых решительных тонах заявили протест московскому "центру", давая понять, что больше не согласны на роль молчаливых послушников Кремля. В их среде нарастает серьезная оппозиция Борису Ельцину.

(Окончание на 2-й стр.)

Ведем расследование

# Не прилетела ли из Грозного "утка"?

Позавчера по московскому телевидению, а вчера в некоторых газетах промелькнула информация о том, что "в центре Грозного российские мотострелки подавили огневую точку снайпера. Им оказалась женщина, при которой обнаружены документы гражданки Беларуси".

Сообщение, которое, можно сказать, потрясло каждого из нас. Редакция "Народной газеты" решила провести оперативное расследование. Первый звонок — председателю Комитета госбезопасности В.Егорову. Узнаем: им дано поручение соответствующим службам достоверно прояснить ситуацию. Пока нет никаких результатов. В Москве, в ФСК, сказали: сведений о том, что в Грозном погибла гражданка Беларуси, не поступало. Работники белорусского Комитета госбезопасности вышли на коллег, которые действуют рядом с зоной конфликта. Ответ тот же — ничего не знаем.

Одновременно ведется проверка по всем женщинам-снайперам, которые зарегистрированы в Беларуси и проживают на территории нашей республики. Любая информация о их вербовке в Чечню будет оглашена.

Но уже сегодня возникает вопрос: не прилетела ли из Грозного "утка"? И кому понадобилось ее запустить? Тем более накануне официального визита российской делегации в Беларусь.

**Иван ПОЛЮХОВИЧ.**

ПІКАНТНАЯ СІТУАЦЫЯ

# Дэмакратыя па прымусу?

Двойчы не знайшоў паразумення з дэпутатамі Пінскага гарсавета Уладзімір Заламай — прадстаўнік прэзідэнцкай "вертыкалі" па Брэсцкай вобласці. Першы раз ён прапанаваў на пасаду старшыні гарвыканкама Васіля Шуста, дырэктара мясцовага аўтапарка. Як ні пераконваў дэпутатаў — не прагаласавалі. Пазаўчора вылучыў новую кандыдатуру — Аляксандра Канеўскага, загадчыка гарадскога аддзела адукацыі. І яму пінскія дэпутаты далі "от ворот поворот".

Ці Уладзімір Заламай не захацеў марнаваць час, ці ў яго ўзыгралі амбіцыі, але ён болей не стаў шукаць прэтэндэнтаў на пасаду старшыні гарвыканкама. Пасля кароткага перапынку дэпутаты пачулі аб'яву: распараджэннем кіраўніка вобласці прадстаўніком прэзідэнцкай "вертыкалі" ў Пінску будзе... Васіль Шуст, якога раней не прынялі дэпутаты, а яго першым намеснікам... Аляксандр Канеўскі, якому толькі што далі "от ворот поворот".

Што ж, добрая аплявуха пінскім дэпутатам — не хочаце зацвярджаць, атрымлівайце па прымусу. Па закону прэзідэнцкая "вертыкаль" можа фарміравацца і такім чынам.

Пікантнасць сітуацыі заключаецца яшчэ і ў тым, што Пётр Цішук, які займаў пасаду першага намесніка старшыні гарвыканкама і які карыстаецца ў горадзе высокім аўтарытэтам, да гэтага часу ад пасады не вызвалены, і атрымліваецца, што цяпер у старшыні выканкама два першыя намеснікі. А можа, у Пінску столькі і трэба?

**Сяргей ПАЛХОЎСКІ.**

